ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР

Антибашистская газета

*Башизм - «Репрессивный режим, направленный на подавление прогрессивных общественных движений, на уничтожение демократии».*

С.И.Ожегов, «Толковый словарь руского языка», на букву «Ф»

№ 19, июнь 2007г.

# Кангрэс дэмакратычных сілаў - вынікі і наступствы

Дэлегаты Кангрэсу дэмакратычных сілаў ухвалілі эканамічную плятформу, малую канстытуцыю і стратэгію дзеяньня аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Сустаршынямі Палітычнай рады сталі старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, старшыня Камуністычнай партыі беларускай Сяргей Калякін, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька выканальнік абавязкаў старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Грамада" Анатоль Ляўковіч.

Другі дзень пачаўся з падвядзеньня вынікаў фармаваньня фракцыяў кангрэсу. Іх створана 8 і самая вялікая – 201 дэлегат– фракцыя паплечнікаў Аляксандра Мілінкевіча "Рэгіёны за свабоду".

Усяго 6 фракцыяў набралі неабходную колькасьць сяброў, каб мець права вылучыць сваіх прадстаўнікоў у прэзыдыюм Палітычнай рады аб'яднаных дэмсілаў. Гэта фракцыі "Рэгіёны за свабоду", "Грамадзянскае дзеяньне"(АГП), партыі БНФ, ПКБ, "Справядлівая і салідарная Беларусь" (паплечнікі Аляксандра Казуліна) і фракцыя "Саюз працы"Аляксандра Бухвостава.

Лідэры фракцыяў прэзэнтавалі свае пазыцыі, а потым пачалося абмеркаваньне дакумэнтаў вынесеных на кангрэс – стратэгіі, эканамічнай плятформы і Малой канстытуцыі.

Спрэчкі вяліся вакол стратэгіі. Нагадаю, супольную стратэгію выпрацавала Палітрада. Але Мікола Статкевіч прапанаваў альтэрнатыўны варыянт – стратэгію "Эўрапейскай кааліцыі". Яе падтрымаў рух "За Свабоду". Паводле аўтараў – гэта стратэгія дзеяньня і эўрапейскага выбару.

Аляксандар Мілінкевіч ў сваім выступе заявіў, што ў стратэгіі Палітрады дадзена няправільная ацэнка сытуацыі. А калі ёсьць разыходжаньні ў дыягназе, то ёсьць разыходжаньні і ў дзеяньнях.

Спадар Мілінкевіч назваў свае асноўныя каштоўнасьці – дэмакратыя, незалежнасьць й інтэграцыя ў Эўропу.

Бальшынёй галасоў дэлегаты падтрымалі эканамічную плятформу і Малую канстытуцыю, а таксама ўхвалілі шэраг рэзалюцый і зваротаў кангрэсу.

Але найбольшую інтрыгу мела галасаваньне па стратэгіі. Дэлегаты нават правялі адмысловую перарэгістрацыю. У выніку 611 дэлегатаў зарэгістравалася.

Рэдакцыйная камісія прапанавала прыняць за аснову стратэгію Палітрады. Праект альтэрнатыўнай стратэгіі ня быў уключаны для галасаваньня, бо, маўляў, ён не паступіў і не было магчымасьці яго разгледзець.

Павал Севярынец і Мікола Статкевіч заклікалі галасаваць супраць стратэгіі Палітрады. Станіслаў Шушкевіч заклікаў наводзіць масты паміж стратэгіямі.

Пасьля першага галасаваньня выявілася, што многія дэпутаты галасавалі "за" і "супраць". Пры паўторным галасаваньні 365 выказаліся "за", 185 "супраць", 20 – устрымаліся. Такім чынам, стратэгія Палітрады была прынята за аснову.

Потым адбылося галасаваньне складу новай Палітрады – калектыўнага кіроўнага органа аб'яднаных дэмсілаў. Тут асноўныя спрэчкі выклікала прадстаўніцтва прадпрымальнікаў, якія ў Палітрадзе прадстаўлены дзьвюма структурамі.

Таму старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка прапанаваў уключыць у склад Палітрады прадстаўнікоў другой прадпрымальніцкай структуры. Урэшце, вырашылі, што гэтае пытаньне вырашыць сама Палітрада.

Кангрэс ухваліў склад Палітрады з 45 чалавек. У яе ўвайшлі сябры Партыі БНФ, сацыял-дэмакратаў, АГП, ПКБ, жаночай партыі "Надзея", "Маладога фронту", аргкамітэту Беларускай партыі працы, руху "За свабоду", партыі "Зялёныя", аргкамітэту Партыі свабоды і прагрэсу.

Мікола Статкевіч адмовіўся ад сяброўства ў новай Палітрадзе, хаця ягоныя паплечнікі там ёсьць. Статкевіч заявіў «Свабодзе», што кангрэс ня здолеў прыняць эфэктыўную, пераможную стратэгію, стратэгію дзеяньня. Ён заявіў, што асноўная ўвага была сканцэнтравана на тым, каб з'есьці Мілінкевіча.

Аляксандар Мілінкевіч, падводзячы вынікі кангрэсу заявіў, што застаецца ў кангрэсе і падпарадкоўваецца яго рашэньню. Ён адмовіўся ад сустаршынёўства і сяброўства ў Палітрадзе. Ён мяркуе, што цяпер нельга казаць пра аб'яднаныя дэмсілы і цяпер будуць рэалізоўвацца дзьве стратэгіі. А. Мілінкевіч заявіў, што цяпер зоймецца стварэньнем руху "За свабоду".

На кангрэсе не абышлося без скандалаў. Сябра незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт» Зьміцер Хведарук заявіў, што арганізатары перашкаджалі ўдзелу ў кангрэсе сябрам "Маладога фронту". Да прыкладу, у прадстаўніцы Артура Фінькевіча, якія цяпер адбывае "хімію", спачатку адабралі, а потым са скандалам вярнулі дэлегацкі мандат.

Журналісцкай акрэдытацыі была пазбаўлена сябра "Маладога фронту"Алена Макарэвіч. Паводле кіраўніка прэсавай службы кангрэсу Сяргея Вазьняка, Макарэвіч нібыта актыўна ўдзельнічала ў групе падтрымкі Ааляксандра Мілінкевіча, скандавала і махала рукамі.

Павал Севярынец заклікаў дэлегатаў кангрэсу праявіць салідарнасьць і заўтра прыйсьці да суду ў Менску, дзе будуць судзіць сябраў «Маладога фронту».

## Пасьля заканчэньня Кангрэсу адбылася прэсавая канфэрэнцыя сустаршыняў Палітрады

У Палітрадзе аб'яднаных дэмсілаў – 45 сябраў, абрана 4 сустрашыні: Вінцук Вячорка, Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька, Анатоль Ляўковіч. За гэта прагаласавал 35 чалавек, супраць выказалася 5.

Пакуль невядома, хто з чатырох сустаршыняў будзе адказваць за які кірункак – невядома, у гэтым пытаньні, як сказаў на прэсавай канфэрэнцыі пасьля заканчэньня Кангрэсу спадар Калякін, усё будзе вызначаны ў сераду, калі адбудзецца чарговае паседжаньне Палітрады.

Анатоль Лябедзька сказаў нашаму радыё, што было спадзяваньне, што будзе 5 сустрашыняў, уключна Аляксандра Мілінкевіча, таму было вызначана 5 кірункаў дзейнасьці: першы – кіраўніцтва штабам па падрыхтоўцы да выбараў (у 2008 годзе пройдуць выбары ў Палату прадлстаўнікоў); другі – нацыянальны выканаўчы камітэт, альбо ценевы ўрад, трэці – работа з рэгіёнамі, чацьвёрты – падрыхтоўка і правядзеньне палітычных акцыяў, і пяты – міжнародны кірунак.

На пытаньне "навошта патрэбныя фракцыі?" сп.Калякін адказаў, што фракцыі патрэбныя дзеля таго, каб людзі былі напружаныя, каб яны, як ён сказаў, "не расслабляліся" і не сыходзілі з гэтых фракцыяў.

А што чатыры сустаршыні будуць рабіць у выпадку, калі галасы падзеляцца – два за, два супраць? На гэта быў адказ, што рашэньні будуць прымаць не сустаршыні, а прэзыдыюм.

Было пытаньне пра Аляксандра Мілінкевіча: як успрыняць яго пазыцыю? С.Калякін сказаў, што гэта ягоны асабісты выбар, але трэба аддаць павагу спадару Мілінкевічу, што ён не заклікаў сваіх прыхільнікаў байкатаваць працу кангрэса альбо Палітрады.

На пытаньне "куды ж павінна ісьці дэмакратычная Беларусь, на Захад альбо на Усход?" сп.Лябедзька сказаў, што гэта самае складанае пытаньне. 18 чэрвеня ў Маскве пройдзе круглы стол пра беларуска-расейскія дачыненьні, дзе будзе шмат аналітыкаў і палітыкаў, і вось гэтае пытаньне будзе згадвацца і на гэтым круглым стале.

Таксама сп. Анатоль Ляўковіч, выканаўца абавязкаў старшыні БСДГ (Грамада) сказаў, што зараз, пасьля заканчэньня кангрэсу зьявіўся "чацьвёрты суб'ект": раней былі Усход, Захад, Лукашэнка, а цяпер зьявіўся чацьвёрты – аб'яднаныя дэмакратычныя сілы.

*Радыё Свабода*

# Страусиный рефлекс

## И политика и экономика против нас

Слушая высказывания наших высших госслужащих, когда они читают подготовленные заранее доклады умиляешься: так у нас на бумаге все хорошо и гладко, что диву даешься. Депутаты палаты почти единогласно (только один против) принимают отмену льгот, Лукашенко заявляет, что это не поднимет социальную температуру в обществе, вице-премьер Семашко докладывает, что мы с честью выдержали повышение цен на энергоносители, а народ, судя по всему, все это то ли поддерживает, то ли просто проглатывает.

Но самое интересное начинается, когда наши большие руководители начинают говорить без бумажки. Тот же Семашко признал, что с начала года Беларусь уже задолжала России целых 400 миллионов(!!!) долларов за газ. А на вопросы корреспондентов, из каких, собственно, источников этот долг собираются гасить, ответил, что ни в коем случае не из тех 625 миллионов долларов, которые Газпром перечисляет за акции проданного Белтрансгаза. Поскольку все экономсты считают, что эти деньги могут и не попасть в Беларусь, а пойдут на взаимозачет. Но Семашко сказал «Нет», значит – нет. Но где тогда взять деньги? И здесь видна настоящая белорусская сообразительность вице-премьера: мол, возьмем у России кредит! Вот где нужно учиться будущим рокфеллерам и гейтсам! Возьмем у России газ и пусть она сама же за него заплатит! Но пока не все ладится с российской стороной (или наоборот – у них там все с головами в порядке).

На последней встрече с представителями российских регионов Лукашенко как мог пугал россиян: Не отталкивайте, дескать, от себя последнюю дружественную страну. Буду президентом я, или кто-то другой, потеряете Беларусь – никто с вами считаться не станет.

В переводе на нормальный язык это означает: оплачивайте, как и ранее, наши запросы, а мы под песни о славянском братстве будем строить свой авторитарный социализм. Но здесь новые проблемы. Немецкое правительство, которое сейчас председательствует в ЕС, на днях сообщило, что с 21 июня вступают в силу экономические санкции против Беларуси. Основанием для их введения были и есть нарушения нашими властями добровольно принятых на себя обязательств по выполнению международного трудового законодательства, а также – освобождение политзаключенных. И если вторую часть под давлением демократических стран и экономических проблем правительство начало выполнять, освободив Северинца, Статкевича, Садовскую, то что оно будет делать с первой частью – сказать тяжело. Ведь столько усилий приложили и столько лет потратили власти Беларуси для уничтожения независимых профсоюзов, а теперь, что – их возрождать? А как? Директивами, или указами? Хоть ты возьми вертикальщикам, да и перейди в эти самые профсоюзы, чтобы отчитаться и перед начальством, и перед Евросоюзом. Но если для начальства это сойдет, то Европу такими хитриками не обманешь. Да и Козулин с Дашкевичем остаются за решетками, оставляя заложниками тысячи наших людей, которые могут лишиться работы в результате санкций. Вслед за этим добавляются переговоры с Ираном, на которых нефтяная тема – для нас. А на самом деле интерес Ирана направлен на возможность доработки оружия с помощью наших специалистов. И как отреагирует цивилизованный мир на наше военное сотрудничество со страной, которую официально обвиняют в международном терроризме, можно не гадать – теми же негласными, или официальными экономическими и политическими санкциями.

А слова А.Лукашенко, что после 13 лет руководства он ничего не собирается менять ни в политике, ни в экономике, свидетельствуют о том, что за это время он мало чему научился и не замечает, что мир вокруг уже другой. И сколько бы наши власти и мы с вами, уважаемые обыватели, ни прятали головы в песок и ни делали вид, что ничего вокруг не происходит, мир вокруг отрывается от нас в развитии все дальше и дальше. И тем тяжелее нам дастся потом возвращение на путь цивилизации.

Андрей ЮРКОВ Тел. 623 61 08

# Летнія ініцыятывы беларускй апазыцыі

*Першы творчы конкурс для прыхільнікаў дэмакратычных зьменаў абвясціла незарэгістраваная грамадзкая арганізацыя "Рух за свабоду". Паводле ўмоваў, кожны ахвочы можа паспрабаваць сябе ў якасьці рэжысэра – зьняць ня больш як 10-хвілінны відэафільм на тэму "Беларусь, якую не паказвае БТ" (Беларуская тэлевізія). Пра новыя ініцыятывы апазыцыі ў летні пэрыяд сьведчаць таксама паведамленьні АГП, БНФ, БСДП (Грамада).*

*Каштоўныя падарункі абяцаныя ўдзельнікам і пераможцам конкурсу, які стартуе ад сёньня. Доўжыцца ён будзе да 20 ліпеня, а ўзнагароджваньне заплянаванае на 27 ліпеня. Пра намеры й спадзяваньні арганізатараў – Юлія Коцкая:*

*"Мы разьлічваем на альтэрнатыўную інфармацыю той, што дэманструе БТ. Да таго ж, гэты відэаматэрыял могуць здымаць людзі абсалютна розных палітычнай, прафэсійнай, рэлігійнай і іншай прыналежнасьці. Акрамя таго, што інфармацыя будзе альтэрнатыўнай, каштоўнасьць яе вызначыць таксама align="center"рознабаковасьць".*

*Юлія Коцкая паведаміла, што відэастужкі да 10 хвілінаў удзельнікі конкурсу загружаюць на відэасэрвіс YouTube.com. Спасылкі й кантакты – на электронны адрас info@milinkevich.org .*

### А.Мілінкевіч: "Рух "За свабоду" далучыць дадаткова людзей"

*Старшыня "Руху за свабоду" Аляксандар Мілінкевіч характарызуе прэзэнтацыю конкурсу як пачатак шматлікіх дзейных справаў:*

*"Формы дзейнасьці вельмі розныя будуць. Пачынаем вельмі моцна займацца адукацыяй. Стажыроўкі будуць у розных краінах. Па-ранейшаму будзем абараняць рэпрэсаваных. Гэта адна з галоўных справаў, каб разбурыць страх. Наш "Рух за Свабоду" далучыць дадаткова людзей. У гэтым галоўная мэта".*

### Ф.Вячорка: "Пікеты адбудуцца цягам усяго лета"

*Пра летнія ініцыятывы Беларускага народнага фронту і яго моладзевага крыла паведамляе Франак Вячорка:*

*"Падаем заяўкі на пікеты, якія адбудуцца цягам усяго лета. 6 чэрвеня – пікетаваньне цэнтральнага корпусу БДУ, 14 – пікетаваньне Камароўскага рынку. Цягам трох месяцаў моладзь будзе знаходзіцца ў тых гарадох, дзе вынішчаюць гістарычную архітэктуру. Мы рыхтуемся – Фронтам – да 27 ліпеня".*

### І.Шынкарык: "Пройдуць акцыі й пікеты "Скажы Лукашэнку: "Не!"

*Партыя камуністаў Беларуская, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і Аб'яднаная грамадзянская партыя праводзяць напачатку лета кампанію ў абарону захаваньня ільготаў для насельніцтва. Каардынатар акцыі Ігар Шынкарык:*

*"1 чэрвеня прайшлі пікеты ў Бярэсьці й Горадні "Скажы Лукашэнку "Не!" Плянуем зрабіць шэраг такіх інфармацыйных кампаніяў і пікетаў. Будзем тлумачыць насельніцтву, што губляе кожны шараговы чалавек ці пэнсіянэр са скасаваньнем гэтых сацыяльных гарантыяў".*

**Радыё Свабода**

# Алесь Петрашкевіч: “Беларускую Энцыкляпэдыю зьнішчаюць айчынныя хунвэйбіны”

За мінулыя трыццаць пяць гадоў выдавецтвам “Беларуская энцыкляпэдыя” выдадзеныя больш за 500 кніг энцыкляпэдычнага профілю. Сяму-таму, відаць, здалося – дастаткова. Улада прыняла рашэньне пра высяленьне выдавецтва зь ягонага будынку.

Цяпер на месцы энцыкляпэдыстаў будуць сядзець судзьдзі Гаспадарчага суду. Сытуацыя вакол БелЭн – тэма гутаркі з пісьменьнікам Алесем Петрашкевічам, які 27 гадоў жыцьця аддаў энцыкляпэдычнай справе.

(Скобла: ) “Спадар Алесь, што сёньня адбываецца з энцыкляпэдыяй, якую вы разам зь Петрусём Броўкам у свой час стваралі?”

(Петрашкевіч: ) “Сытуацыя вельмі трывожная. Па-першае, у энцыкляпэдыі дзяржава адабрала будынак, які перададзены гарадзкому гаспадарчаму суду. Выйшла нематываванае распараджэньне кіраўніка краіны выселіць БелЭН з памяшканьня.

Куды выселіць – у распараджэньні ня сказана. Супрацоўнікі сядзяць на клунках, а новы гаспадар распачаў у будынку капітальны рамонт.

Па-другое, выдавецтва ў канцы мінулага году было вымушанае скараціць штаты – са 156 чалавек да 95. З гэтых 95 толькі 35 рэдактараў. Сёньня ў штаце не засталося ніводнага бібліёграфа. А гэта ўжо нонсэнс. Тая калекцыя энцыкляпэдычных рэдактараў-спэцыялістаў, якая фармавалася цягам трыццаці пяці гадоў, разбураецца.

А энцыкляпэдыі могуць выдавацца толькі пры аптымальнай колькасьці рэдактараў мінімум 150-160 чалавек. Навукаў розных так многа, што малой колькасьці рэдактараў, якія ўсе павінны быць адмыслоўцамі, не ахапіць, не выцягнуць гэтыя ўсе навукі.

Яшчэ летась у выдавецтве было 12 галіновых рэдакцый. Цяпер іх толькі 3. Як трыма рэдакцыямі можна падрыхтаваць і выдаць сур’ёзную навуковую энцыкляпэдыю? Гэта немагчыма. У такіх умовах энцыкляпэдыя зачахне.

Зьнішчэньне БелЭн, якое адбываецца на нашых вачах, можна параўнаць па значэньні хіба з закрыцьцём Віленскага ўнівэрсытэту генэралам Мураўёвым”.

(Скобла: ) “Пра рашэньне ўладаў выселіць Беларускую энцыкляпэдыю я запытаўся ў галоўнага рэдактара выдавецтва Генадзя Пашкова”.

(Генадзь Пашкоў: ) “Што значыць – высяляюць? Наш будынак перадаюць другой арганізацыі”.

(Скобла: ) “А энцыкляпэдыя ў ім застанецца?”

(Пашкоў: ) “Ну, я пакуль што ня ведаю. У мяне няма наконт гэтага інфармацыі”.

(Скобла: ) “Больш гаваркім са мной быў загадчык аддзелу рэдакцыі сацыяльна-эканамічных навук Станіслаў Дубянецкі”.

(Станіслаў Дубянецкі: ) “У сэнсе работы энцыкляпэдыі ўсё ідзе паводле пляну. Міністэрства інфармацыі нашыя пляны зацьвярджае. А па будынку – так... Ёсьць распараджэньне перадаць яго менскаму гарадзкому гаспадарчаму суду. Быў у нас міністар, сказаў: “Абсалютна спакойна працуйце, пытаньне вырашаем”. Нас кудысьці пераселяць, тут трагедыі няма. Учора нам на прафсаюзным сходзе сказалі працаваць у звычайным рытме, пакуль ня знойдзецца прыстойнае месца.

Што да скарачэньня штатаў, то на сёньня наяўнай колькасьці рэдактараў хапае. Паводле нормаў лічыцца нават, што менш трэба”.

(Петрашкевіч: ) “Даведнік “Автомобильные дороги” (нядаўна выйшаў) можна выдаць і ўтрох. А вось сур’ёзную энцыкляпэдыю... Напрыклад, “Знакамітыя людзі Беларусі” – ад Вітаўта да нашых дзён, да таго, хто заслужыць. Можна плянаваць 100 тамоў! А ў нас пакуль што выдадзеныя толькі дзьве пэрсанальныя энцыкляпэдыі – “Янка Купала” і “Францішак Скарына і яго час”. Нават пра Максіма Багдановіча няма, пра Якуба Коласа, пра Максіма Гарэцкага, пра мастакоў нашых знакамітых. Вось падобную энцыкляпэдыю, даруйце, утрох ня зробіш. І трыццаць чалавек ня зробяць”.

(Скобла: ) “Як вы лічыце, што паслужыла прычынай такога стаўленьня ўладаў да энцыкляпэдыі? Я памятаю, як дзесяць гадоў таму новапрызначаны галоўны рэдактар БелЭН Генадзь Пашкоў уручаў першыя тры тамы 18-тамовай энцыкляпэдыі Аляксандру Лукашэнку, і той выказваў сваё задавальненьне. Дык што зьмянілася за гэты час?”

(Петрашкевіч: ) “Улады давялі выдавецтва фактычна да банкруцтва. Наклады зьнізіліся да мінімальных. Першую энцыкляпэдыю мы выпускалі накладам 30 000 асобнікаў, цяпер даходзіць і да 3 000. А чым меншы наклад – тым даражэй кніга. Сёньня ідзе наступ на ўсё нацыянальнае. У гэтай сытуацыі прыпынена выданьне другога тому энцыкляпэдыі “Вялікае Княства Літоўскае”. Чаму? Бо калі нашым чыноўнікам і кіраўніцтву прызнаць Вялікае Княства Літоўскае, то трэба прызнаваць і беларускую старажытную дзяржаўнасьць, і сапраўдную гісторыю, а ня тую, якую нам прапанавалі. Таму ў сёньняшніх умовах спыненьне энцыкляпэдыі “ВКЛ” вельмі паказальны сыгнал”.

(Скобла: ) “Ці былі такія выпадкі, каб нейкія энцыкляпэдычныя праекты не даводзіліся да завяршэньня?”

(Петрашкевіч: ) “У нашай беларускай практыцы такога не было, каб нейкі том забаранілі выдаваць. А вось у нашых суседзяў такія выпадкі былі. Напрыклад, у 1929 годзе ня выйшаў 10 том “Литературной энциклопедии” Савецкага Саюзу. Там быў артыкул пра Сталіна, які самому Іосіфу Вісарыёнавічу не спадабаўся. Так і паступіла энцыкляпэдыя ў бібліятэкі – без дзясятага тому.

Энцыкляпэдыя – гэта ўсё ж палітычнае выдавецтва. Таму былі выпадкі, калі й нас прымушалі выскрабаць цэлыя друкарскія аркушы, падмяняць іх, калі было адпаведнае ўказаньне. Прычым рабілася ўсё без усякіх аглядак на тэхналягічны працэс, на затраты фінансавыя.

Мне вельмі хацелася б, каб падобнае не паўтарылася і з другім томам “Вялікага Княства Літоўскага”, каб не вярнулася практыка 1929 году. А гэта можа быць. Усе наступы ў нас на энцыкляпэдычную справу пачыналіся якраз у 20-я гады”.

(Скобла: ) “Вы кінулі позірк у гісторыю. Вядома, што першая сапраўдная энцыкляпэдыя выйшла ў нас у 1969 годзе – да 50-годзьдзя БССР. А якія выданьні можна лічыць пачаткам айчыннага энцыкляпэдызму?”

(Петрашкевіч: ) “Калі з самага пачатку глядзець, то трэба згадаць Францішка Скарыну. Таго самага, чый праспэкт не ўтрымаўся ў цэнтры сталіцы й цяпер скіраваны на Барысаўскі тракт.

Скарына – наш першы энцыкляпэдыст. Яго глосы на палях Бібліі, “Псалтыра”, “Апостала”, “Малой падарожнай кніжыцы” – расшыфроўкі словаў і паняткаў – гэта ж тлумачальныя слоўнікі. Нездарма слоўнікі ў канцы шаснаццатага стагодзьдзя называлі гласарыямі.

Энцыкляпэдычную справу Скарыны прадоўжыў Л. Зізаній, які ў 1596 годзе надрукаваў як дадатак да азбукі “Наука ку читанию и разумению письма словенского” перакладны слоўнік “Лексис, сиречъ речения вкратце собраны из словенского языка на просты русский диялект истолкованы”. Там былі растлумачаныя 1061 слова.

Характар энцыкляпэдыі мае праца Я. Пратасевіча “Intventores rerum, альбо Кароткае апісаньне, хто што да ўжытку людзей даў” (1608). Выдадзены ў 1623 годзе “Лексикон славенорусский и именъ толкование” П. Бярынды зьмяшчаў каля 7 000 слоўнікавых артыкулаў.

Свой унёсак у энцыкляпэдычную справу зрабілі І. Грыгаровіч і І. Насовіч, які выдаў сапраўдны слоўнік беларускай мовы, замаскаваўшы яго пад “Словарём белорусского наречия” (1870). Далей уладамі Расейскай імпэрыі быў разгромлены Віленскі ўнівэрсытэт, і беларушчына апынулася пад забаронай”.

(Скобла: ) “А савецкая ўлада ці спрыяла энцыкляпэдычнай справе?”

(Петрашкевіч: ) “Пасьлярэвалюцыйнае нацыянальнае адраджэньне Беларусі 20-х гадоў выклікала сапраўдны інтэлектуальны, патрыятычны, навуко-

Працяг на ст.4

ва-культурніцкі й выдавецка-энцыкляпэдычны ўсьплёск. Выданьне ў 1927 годзе аднатомавіка "Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка" было спробай стварыць энцыкляпэдычны даведнік. Спроба была падтрымана ўладай. І ў 1934 годзе была прынятая пастанова ЦК КПБ аб выданьні Беларускай савецкай энцыкляпэдыі ў 10 тамах. Пры Акадэміі навук была створаная Галоўная рэдакцыя БелСЭ. Гэта ўжо было нешта. У 1935 годзе быў выдадзены тэматычны слоўнік будучай 10-томавай энцыкляпэдыі, быў падрыхтаваны да друку першы том. Але ў 1937 годзе пастановай Бюро ЦК КПБ выдавецтва было скасаванае.

НКВД "падабраў" усіх тых, хто дазволіў гэтае выданьне і нават тых, хто пісаў артыкулы. Усе яны былі рэпрэсаваныя.

Паралельна Інстытут літаратуры й мастацтва Акадэміі навук самастойна рыхтаваў літаратурную энцыкляпэдыю Беларусі. Яе напаткаў аналягічны лёс. Не засталося нават карэктураў. Паўза працягвалася да 1944 году. Уявіце сабе, што не памірала ідэя стварыць сваю нацыянальную энцыкляпэдыю. У 1944-1946 гадах Інстытутам гісторыі быў падрыхтаваны да выданьня даведнік "Выдатныя дзеячы беларускай зямлі".

(Скобла: ) "А на гэты раз што перашкодзіла?"

(Петрашкевіч: ) "Скончылася пасьляваенная адліга. І ўжо да адлігі хрушчоўскай ніхто пра энцыкляпэдыі не заікаўся, ведаючы, што было з энцыкляпэдыстамі-папярэднікамі. У 1957 годзе віцэ-прэзыдэнт Акадэміі акадэмік Кандрат Атраховіч (Крапіва) разам з вучоным сакратаром Ф. Вінакуравым напісалі сакратару ЦК КПБ К. Мазураву ліст, які заканчваўся словамі: "Прэзыдыюм Акадэміі навук лічыць магчымым выданьне на працягу 1958-1965 гадоў Беларускай савецкай энцыкляпэдыі ў 10 тамах тыражом 15 000 экзэмпляраў. Мова выданьня – беларуская". У атмасфэры русыфікацыі, а нават шавінізму, чыноўнікі-перастрахоўшчыкі лёгка закасавалі й гэтую ідэю.

Да яе вярнуліся толькі пры Машэраве. Ініцыятарамі выступілі вучоныя і пісьменьнікі. Можна сказаць, што над Беларусьсю ў той час зоркі сышліся на станоўчы вынік. Па-першае, прайшла масавая рэабілітацыя ўсіх тых, каго пасадзілі раней, у тым ліку – за энцыкляпэдыю. Па-другое, Украіна й Літва ўжо завяршалі выданьне сваіх энцыкляпэдый. А Машэраў, як чалавек адукаваны, інтэлігентны і амбіцыйны, разумеў, што і ў яго рэспубліцы павінна быць энцыкляпэдыя. Ён то ведаў, што дзяржава толькі тады зьяўляецца дзяржавай, калі ў яе ёсьць герб, гімн, сьцяг і энцыкляпэдыя.

У 1966 годзе Бюро ЦК КПБ прыняло пастанову аб стварэньні ў сьценах АН Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі. Быў вызначаны штат у 120 чалавек, устаноўлены ганарары – 4 капейкі за літару, г. зн. 18 рублёў за адну машынапісную старонку. Для тых часоў заробак для навукоўцаў проста нечуваны.

Галоўным рэдактарам зацьвердзілі народнага паэта, акадэміка Петруся Броўку, адказным сакратаром – мяне. Броўка так вызначыў мае абавязкі: "Я, як ледакол, лёд буду праломваць, а ты крыгі будзеш разводзіць, каб ззаду не замярзала". Акадэміі мы хутка надакучылі. Уявіце сабе, у нас было каля 6 000 аўтараў, і кожны ходзіць і пытае, дзе тут у вас энцыкляпэдыя? Таму за год і два месяцы (!) быў пабудаваны асобны будынак, дзе мы й адзначалі выхад першага тому БелСЭ".

(Скобла: ) "Вы працавалі з двума галоўнымі рэдактарамі БелЭН – з Броўкам і Шамякіным. З каторым было лягчэй?"

(Петрашкевіч: ) "У энцыкляпэдыі адкрыта гаварылі, што Шамякін – гэта далёка ня Броўка. Ён, у адрозьненьне ад Броўкі, не чытаў, не гартаў нават ні карэктуры, ні вёрсткі. Быў такі выпадак. Я папытаўся ў галіновага рэдактара: "Ты даеш Івану Пятровічу карэктуры "Энцыкляпэдыі літаратуры і мастацтва"? Ён іх чытае?" Той падумаў і адказаў: "Чытае. Пра сябе і пра дачку Тацьцяну прачытаў".

Ці другі выпадак. Мы задумалі выдаць Біблію Скарыны. Ужо выдаўшы супраць жаданьня Шамякіна даведнік "Скарына і яго час". Дзіўна, Шамякін добры пісьменьнік, адукаваны чалавек, але лічыў, што пра Скарыну вядома толькі сем фактаў, якая там энцыкляпэдыя! Тады я й прапанаваў зрабіць энцыкляпэдыю ня толькі пра Скарыну, але й пра тых, хто жыў у той даўні час.

Шамякін насьцярожыўся: "Дык гэта ж можна падсьвяціць і залаты век Беларусі". А я кажу: "Падсьвецім, ды яшчэ як!" І мы выдалі Скарынаўскую энцыкляпэдыю. А Біблію Шамякін забараніў выдаваць. Але я на свой страх і рызыку ўнёс яе выданьне ў юбілейны плян (адзначалася 500-годзьдзе першадрукара). І на аргкамітэт, які праводзіла намесьнік прэм'ер-міністра Ніна Мазай, я замест Шамякіна хадзіў. І вось мы запусьцілі ў вытворчасьць першы том Бібліі, а галоўны рэдактар нічога ня ведае. А калі даведаўся, то ўскіпеў: "Вы што, ашалелі!? Акадэміка Язэпа Лёсіка за адну прапанову выдаць Біблію Скарыны расстралялі!" Я Івану Пятровічу адказаў: "Такіх, як вы, ужо не расстрэльваюць. А я рызыкну".

(Скобла: ) "Я хацеў бы зьвярнуць вашу ўвагу на адну публікацыю. У абарону энцыкляпэдыі ў № 3 часопіса "Полымя" выступіў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Ігар Катляроў. Ён піша: "Чамусьці ў краіне знайшліся чыноўнікі, якія палічылі, што адміністрацыйныя рэсурсы важней, чым энцыкляпэдычныя веды. І гэта ў той час, калі такія веды вельмі патрэбныя маладой беларускай дзяржаве, калі ствараецца ідэалёгія беларускай дзяржаўнасьці, калі менавіта веды зьяўляюцца галоўным стратэгічным рэсурсам". Як быццам дэпутат ня ведае, хто гэта – "той чыноўнік". Ці будзе пачуты голас сп. Катлярова?"

(Петрашкевіч: ) "Удакладню, што Ігар Катляроў – не шэраговы дэпутат, а намесьнік старшыні Камісіі па культуры й навуцы. Я чамусьці перакананы, што калі б яго артыкул прачытаў кіраўнік краіны, то ніколі не падпісаў бы свайго пасьпешлівага распараджэньня на фактычнае, будзем гаварыць, зьнішчэньне энцыкляпэдычнай справы ў Беларусі. А дарадцаў па справах навукі й культуры замяніў бы на разумнейшых. А так у мяне стварылася ўражаньне, што кіраўніка краіны пераканалі ў тым, што ўсе энцыкляпэдыі, якія толькі можна было выдаць, выдадзеныя. І сапраўды, за 35 гадоў выдадзена больш за паўтысячы выданьняў энцыкляпэдычнага профілю. Хоць яны ня ўсе аднаго кшталту. Але ж у нас яшчэ няма музычнай энцыкляпэдыі, энцыкляпэдыі выяўленчага мастацтва, турыстычнай энцыкляпэдыі ды інш.

Крый Бог, у нашай дзяржаве будзе ліквідаваная энцыкляпэдыя, то гэта будзе ня проста памылка чыноўніцкая, гэта злачынства! Якая ж тады дзяржава?! Якая ж тады культура?! Якая ж тады навука?! Хто яе абагульніць? Хто Беларусь пакажа сьвету? Падчас прэзэнтацыі 12-тамовай беларускай энцыкляпэдыі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый было сказана, што краіна, якая можа выдаваць такія энцыкляпэдыі, – сапраўдная дзяржава. Дык мы будзем будаваць сапраўдную дзяржаву, ці й з гэтай разьвітаемся ў хуткім часе?!"

(Скобла: ) "Як мы пераканаліся, сп. Пашкоў не падзяляе вашай трывогі наконт магчымай ліквідацыі выдавецтва. А ў вас якія прагнозы наконт будучыні БелЭН?"

(Петрашкевіч: ) "Няма на гэты конт у мяне аніякага аптымізму. Ня вельмі спадзяюся я і на адрасаваны кіраўніку краіны ліст у абарону энцыкляпэдыі, які падпісалі некалькі дзясяткаў (!) беларускіх акадэмікаў. Па дарозе да вас на радыё я падумаў, што ў нашай краіне мае месца хунвэйбінаўшчына беларуская. І асацыяцыя з ганебнай хунвэйбінаўшчынай, што вынішчыла ў 50-я гады цэлы пласт кітайскай культуры, невыпадковая.

Калі толькі палічыць удары нашых хунвэйбінаў па такіх штабах нацыянальнай культуры, як беларускія выдавецтвы, беларускія часопісы, незалежныя газэты, кінастудыя, грамадзкія арганізацыі, творчыя саюзы, беларускія школы, то робіцца відавочным: нашы хунвэйбіны нічым не адрозьніваюцца ад кітайскіх.

Праўда, кітайскія сваю мову на расейскую не мянялі. І выдавецтвы кітайскіх энцыкляпэдый не грамілі.

Нашы ж айчынныя хунвэйбіны, напэўна, вырашылі сваю "культурную рэвалюцыю" закончыць менавіта канчатковым разгромам выдавецтва "Беларуская энцыкляпэдыя" імя Петруся Броўкі".

***Міхась Скобла,***
***Радыё Свабода***

«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР» Антибашистская газета. №19, июнь 2007г. Издатель и главный редактор -Эдуард БРОКАРЕВ. Тел. 545 89 83. Издание непериодическое, выходит по мере возможности. Тираж 299 экземпляров.